Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 47 | Нядзеля, 30-га Лістапада 1924 г. | Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Надпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4.
(Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз.
Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр.; у тэксьце — 10 гр.; на апош. стар.— 5 гр.

**Часовая Беларуская Рада месьціцца на Нямецкай вуліцы у готэлі „Palace“ пакой 154. Прыём штодня ад 12—2 гадз.**

## Прыкрае палажэньне.

Прыкрасьць палажэньня беларускай справы ў Польшчы выцякае, ў вялікай меры, з тае простае прычыны, што ніхто з нашых дзеячоў не падумаў ніколі аб больш-менш паважнай арганізованнасьці шырокіх народных масаў.

Нашыя культурныя нацыянальныя сілы найбольш скупіліся ў Вільні і замкнуліся ў вузкім інтэлігэнцкім гуртку. Гурток гэты, пад моцным назовам Беларускага Нацыянальнага Камітэту, ня ўбіраў у сябе навет і ўсяго сьвядомага беларускага жыхарства аднае Вільні. У Нацыянальным Камітэце заўсёды былі прадстаўлены адны толькі беларускія арганізацыі места Вільні бяз больш шырэйшага грамадзкага прадстаўніцтва.

Модус дэлегаваньня арганізацыямі сваіх прадстаўнікоў у Нацыянальны Камітэт (фактычна) места Вільні выпрацоўваўся заўсёды кіраўнікамі гэтага Камітэту, паводлуг сваіх групавых меркаваньняў.

Няпрыемныя кіраўніком Камітэту, опозыцыйныя да іхняй тактыкі, элемэнты грамадзянства ў Камітэт не дапушчаліся. Фактычна справу вяла цесна абмяжованая група людзей, якая гуртавалася ў камітэцкім прэзыдыуме; рэшта сяброў Камітэту іграла пасыўную ролю статыстаў.

І вузасьць ды аграніčанасьць цеснае групы людзей выявілася ярка пры першым паважным спатканьні з задачаю болей шырокага значэньня.

Задачай гэтаю зьяўляліся выбары ў 1922 годзе ў Сойм і Сэнат Польскае Рэспублікі. Камітэцкіх вярхоў дзеля разрашэньня гэтае задачы тады не хапіла і мімаволі прышлося карыстацца новымі людзьмі, высунутымі глухою провінцыяй.

На час выбарнай кампаніі Віленскі Беларускі Нацыянальны Камітэтператварыўся ў „Цэнтральны Беларускі Выбарны Камітэт“, які, цераз сваіх эмісараў, разасланых па провінцыі, рабіў перадвыбарныя мітынгі ў цесным контакце з іншымі нацыянальнымі меншасьцямі і навет у занадта блізкім саюзе з гэткаю нязначнаю меншасьцю, як часьць расейцаў ці зрусіфікованых мясцовых людзей-беларусаў.

Гэтыя апошнія элемэнты толькі і маглі высунуць на беларускую палітычную арэну гэткія „популярныя“ імёны, як быўш. чарнасоценец і быўшы пасол Сойму Якавюк, нікому датуль невядомыя цяперашнія сэнатары Назарэўскі ды Багдановіч і пераконаны русіфікатар-антыбеларус пасол Рагуля, які, са ўсім імпатам сялянскае натуры, стараецца цяпер гуляць ролю нейкага рэвалюцыйнага паяца ў беларускім руху.

Расчынены здаравенным процэнтам гэткае русіфікатарскае рошчыны, Беларускі Пасольскі Клюб у сваёй парлямэнтарнай тактыцы заняў адразу варожую да польскай дзяржаўнасьці пазыцыю і пачаў бараніць з соймавае трыбуны ня толькі нацыянальныя беларускія справы, а і ўсялякія прафэсіянальныя інтарэсы ідэолёгаў „россійскаго православія“, розных збунтованых проці свае законнае ўлады і, натуральна, пацярпеўшых пэўныя рэпрэсіі, архірэяў — Элеўфэрыя віленскага, Уладымера гарадзенскага і жыровіцкага іераманаха Ціхана.

Падобныя выступленьні нашых паслоў у Сойме маглі быць на руку тольлі нязначнай расейскай меншасьці і, знайшоўшай прытулішча ў Польскай Рэспубліцы, расейскай эміграцыі. Бо трудна пагадзіць ідэолёгію бацюшак ды архірэяў — русіфікатараў з ідэяй беларускага адраджэньня.

Забітыя пасьляваенным горам беларускія сялянскія масы і наша народная інтэлігэнцыя расейскай культуры саўсім натуральна чакала „цудаў“ ад сваіх родных парлямэнтарыяў, як законных прадстаўнікоў беларускіх інтарэсаў у Польшчы, наіўна верачы, што яны прызваны разрашыць усе балючыя нацыянальныя задачы, будучы выразьнікамі нібыто ўсіх кірункаў беларускай палітычнай думкі.

Інтэлігэнцыя сваею перадвыбарнаю агітацыяю, а сялянства сваімі галасамі выбаршчыкаў, даўшыя паном паслом іхнія парлямэцкія мандаты, прыслухваліся і далей да голасу сваіх прадстаўнікоў на гэтак званых справаздаўчых мітынгах па провінцыі.

Праўду кажучы, справаздачы ніякай спадзявацца ня прыходзілася, таму, што і ня было з чаго яе рабіць. Інтэрпэляцыі паслоў аб мясцовых бытавых ненармальнасьцях нашага тутэйшага жыцьня нічога новага для масаў не прадстаўлялі, бо на іхнім уласным падворку ненармальнасьці гэтыя адбываліся. У барацьбе за беларускую школьную справу паны паслы карысталіся голымі фразамі, аб тым, што ў Польшчы гэтую справу рабіць не пазваляюць дый толькі. А чым-жа, як не наноў паслаў абавязкам было ўнясеньне ў Сойм адпаведнага па гэтай справе проекту?

Дзе-ж іхнія словы аб тым, што ў Польскай Рэспубліцы яны будуць дабівацца аўтаноміі, застаючыся ідэйна незалежнікамі? Словы гэтыя засталіся толькі на тэй паперы, на якой была напісана іхняя першая дэклярацыя, калі яны ўвайшлі ў Польскі Сойм у 1922 г.

Бо да гэтага часу навет нічога ня чуваць, каб аб падобным проекце аўтаноміі хто-нібудзь з паслоў падумаў.

Падумалі паны паслы, зьяўляючыся офіцыяльнымі прадстаўнікамі беларускіх інтарэсаў у Польшчы, аб рэчах іншага гатунку і пачалі крута орыентавацца на Усход.

Падобная орыентацыя выклікала зразумелае падазраваньне ўсяга сьвядомага беларускага ў... бальшавізьме з боку, як польскага грамадзянства, так і офіцыяльных прадстаўнікоў дзяржаўнае ўлады. Беларуская проблема ў Польшчы застыла на мёртвым пункце і трэба вялікай натугі ўсіх нашых нацыянальных сіл, каб скрануць справу з гэтага пункту, апіраючыся на ўсіх законных гарантыях.

Палажэньне ўтварылася вельмі прыкрае, аднак-жа не бязвыхаднае. І, падзякаваўшы тым, хто родную справу давёў да тупіка, трэба ўсім беларускім сьвядомым элемэнтам пастарацца выцягнуць яе з падобнага палажэньня на шлях жыцьця і росквіту.

## Палітычны агляд.

Даўно зьбіраўшыяся на палітычным небасхіле Блізкага Усходу хмары загудзелі першым грымотам. Забойства ангельскага галоўнага камандуючага ў Эгіпце можа быць пачаткам надта паважных палітычных падзеяў. Ангельска-эгіпэцкі конфлікт у сувязі з гэтым здарэньнем ёсьць толькі часткай важных здарэньняў на ўсенькім Усходзе, пачынаючы ад Кітая, а канчаючы Мароко. І разьвіцьцём усіх гэтых падзеяў найболш абеспакоена Англія. Новы ангельскі ўрад адтрымаў цяжкую спадчыну пасьля Макдональда, які вёў перагаворы з бальшавікамі, падбураўшымі ўсходнія народы проці Англіі.

Пачалося ўсе з Арабіі. Удачны прагон вагабітамі ангельскага протэжэ Гусэйна дадаў адвагі й іншым магамэтанскім народам. Першымі паўсталі проці несправядлівага захвату Англіяй Мосульскага віляйэту туркі. Амаль што не дайшло да паважнага аружнага спатканьня Турцыі з Англіяй, якое ўдалося спыніць, дзякуючы энэргічнай інтэрвэнцыі Лігі Народаў і ўступчывасьці Англіі. Як Англія, так і Турцыя згадзіліся на разрашэньне непаразуменьня радай Лігі Народаў і адвялі свае войскі за ўстаноўленыя межы. Гэткім чынам Мосульскі конфлікт, хаця яшчэ не

закончаны, але можна спадзявацца, што ўжо ўвайшоў у фазу ліквідацыі, калі толькі гэтаму не перашкодзяць новыя палітычныя падзеі.

Ангельска-Эгіпэцкі конфлікт падгатаўляўся ўжо даўно. Як толькі Эгіпэт залетась адтрымаў поўную незалежнасьць ад Англіі, пачаліся ў Эгіпце імкненьні, каб Англія вывела з эгіпэцкай тэрыторыі сваё войска. Апрача таго Эгіпэт заявіў свае пратэнсіі і на Судан. На чале соцыяльнальнага вызваленчага руху стаіць быўшы прэм'ер Эгіпту.

Каля трох месяцаў назад, калі ў Судане пачалася разруха, арганізованая эгіпэцкімі нацыяналістымі і скірованая проці Англіі, ангельскі прэм'ер Макдональд запрасіў Заглюль-Пашу ў Лёндан на конфэрэнцыю. Прыехаўшы ў Лёндан, Заглюль-Паша заявіў, што, калі Англія дала Эгіпту незалежнасьць, дык гэтая незалежнасьць павінна быць сапраўднай, а не на паперы, г. зн., што Англія павінна вывесьці войска і з Судану, які ў цеснай палітычнай, нацыянальнай і эканамічнай сувязі з Эгіптам.

Гэткае рашучае дамаганьне прадстаўніка Эгіпту зрабіла надта дрэннае ўражаньне ў палітычных сфэрах Англіі. Ужо тады адчувалася ў паветры зьбіраўшаяся бура. А ў той час Англія, каб абясьпечыць за сабой Суэцкі канал, які зьяўляецца ключом да валаданьня Індыяй, ніяк не магла згадзіцца з гэтымі дамаганьнямі, якіх нельга было ня прызнаць справядлівымі. Наадварот, цяпер Англія яшчэ балей ахраняе Суэцкі канал. У той час разруха ў Кітаі, неспакойства ў Індыі, удача туркаў і вагабітаў, а таксама й мароканцаў у барацьбе з гішпанцамі нязвычайна прыдалі духу эгіпэцкім нацыяналістым. Палітычнае палажэньне ў Эгіпце дайшло да гэткага напяцця, што ў канцы канцоў вылілася ў адкрыты конфлікт. Заглюль-Паша ня мог або не хацеў датрымаць свайго слова, што будзе змагацца за незалежнасьць лёяльнымі спосабамі. Хаця ён двойчы выказаў ад імя эгіпэцкага ўраду жаль і перапрашаў Англію; хаця ён зьвярнуўся да эгіпэцкага народу з адозвай, у якой дрэнна ад'зываецца аб нападзе на ангельскага галоўнага камандзера і кліча народ памагаць лавіць уцёкшых забойцаў, — але ў Англіі ня вераць у ягоную шчырасьць і ўсе лічаць яго маральна адказным за гэтае забойства. Англія пачала самыя энэргічныя ваенныя захады дзеля абясьпечаньня сваіх гарнізонаў у Эгіпце і Судане і хоча прымусіць эгіпэцкі ўрад быць паслухмяным. Але няма ведама, ці гэтыя строгасьці дадуць пажаданы рэзультат. Англія павінна быць надта асьцярожнай і хітра-мудрай дзеля таго, што палітычная атмасфэра вельмі згушчана на ўсім Усходзе.

Ужо гэты факт даказвае, як абмыліўся Макдональд у сваіх плянах зрабіць агульны мір шляхам раззбраеньня. Дзеля гэтага новы ангельскі ўрад заявіў Лізе Народаў, што ён не падпіша жэнэўскага пратаколу аб раззбраеньні, пакуль не адтрымае на гэта пытаньне адказу ўсіх сваіх калёніяў. У Рыме ў пачатку сьнежня зьбіраецца чарговае пасяджаньне рады Лігі Народаў, на якім будзе разглядацца пытаньне аб прыняцьці ў Лігу Нямеччыны і скліканьні ў будучым годзе міжнароднай конфэрэнцыі ў зьвязку з прыняцьцем жэнэўскага пратаколу. Але гэта конфэрэнцыя, на якую думалі прасіць Амэрыку, Нямеччыну і навет С. С. Р. Р., можа быць склікана толькі тады, калі жэнэўскі пратакол будзе ратыфікованы галоўнымі саюзнымі дзяржавамі. А дзеля таго, што Англія ня толькі не сьпяшаецца ратыфікаваць яго, але навет захацела зусім зьняць яго з павесткі рымскай сэсіі рады Лігі Народаў, пытаньне аб агульным раззбраеньні адкладаецца на няведамы час.

*N.*

# Палітычная хроніка.

**У Польшчы.**

Міністар заграничных справаў п. Скржынскі і начальнік усходняга аддзелу міністэрства п. Лукасевіч выяжджаюць 8 сьнежня ў Гэльсінгфорс на конфэрэнцыю балтыцкіх дзяржаваў.

Міністар Тугут меў доўгую нараду з прэзэсам жыдоўскага кола Рэйхам аб палажэньні жыдоў у Польшчы.

Нованазначаны ў Варшаву савецкі посал Войкаў зрабіў 25-га г. м. сьнеданьне ў залях эўропэйскага готэлю ў чэсьць міністра заграничных справаў п. Скржынскага.

Сьледства па справе дуэлі гэнэр. Шэптыцкага закончана. Справа пераслана ў Варшаўскі ваенны суд.

«Gazeta Poranna» паведамляе, што ведамасьці, якія зьявіліся ў заграничнай прэсе аб тым, быццам Польшча ўвайшла ў лік Малой Антанты, не адпавядаюць праўдзе.

Польскім пасло ў Маскву мае быць назначаны прафэс. Кэнтржынскі.

У соймавых кругох гавораць аб магчымасьці назначэньня польскім паслом у Амэрыку п. І. Падэрэўскага.

Міністэрства земляробства адмовілася зьняць забарону на ўвоз у Польшчу быдла з Румыніі. Як ведама, румынскае быдла значна таньнейшае за мясцовае і румынскія гандляры зьяўляліся-б небясьпечны конкурэнтамі для мясцовага мяснога гандлю.

У Збаражы памёр пасол Міхал Зволінскі (P. S. L.).

Намесьнік старшыні рады міністраў п. Тугут прыняў быўшага дэлегата ўраду на Віленшчыну п. Романа разам з дэлегацыяй ад крэсовага насяленьня. Разважаліся пытаньні, зьвязаныя з урэгуляваньнем адносін на крэсах.

Соймавая камісія прыняла прапазыцыю аддаць быўшага міністра Кухарскага пад суд дзяржаўнага трыбуналу за тое, што ён даў выняткова лёгкія варункі крэдыту жырардаўскім фабрыкам па выплаце іхняга даўгу скарбу, што пацягнула за сабою страты дзяржавы на $2^1/_2$ мільёны швейцарскіх франкаў.

Перарыў соймавае сэсіі на сьвяты яшчэ аканчальна не устаноўлены. Думаюць, аднак, што Сойм будзе працаваць да 12 сьнежня, а пасьля зьбярэцца каля 1-га лютага. Бюджэтная камісія будзе працаваць без пярэрвы.

**За граніцай.**

**Эгіпэцкі** прэм'ер Заглюль-Паша ў сваім адказе на ноту ангельскага ўраду заявіў, што прызнае і споўніць усе пункты ангельскае ноты, якія беспасрэдна зьвязаны з замахам. Але Заглюль-Паша рашуча адмаўляецца споўніць усе іншыя дамаганьні Англіі, як вывад эгіпэцкіх войск з Судану і т. п. — лічачы іх зусім беспадстаўнымі, бо яны нарушаюць прызнаную Англіяй Констытуцыю Эгіпту, паводле якой эгіпэцкі кароль зьяўляецца незалежным монархам ўсяго **Эгіпту і Судану** і адначасна вярхоўным начальн. арміі

Парлямэнт аднагалосна адабрыў гэты адказ і выразіў поўнае даверые ўраду. Адтрымаўшы аднагалоснае даверые парлямэнту, кабінэт Заглюль-Пашы падаўся ў адстаўку ня хочучы спаўняць нязгодных з констытуцыяй трэбаваньняў **Англіі**, ўрад якое даў свайму камісару ў Эгіпце неабмяжованыя поўнамоцтвы. З **Судану** ангельцы сілаю выдаляюць эгіпэцкія войскі. Мытная установа ў порце **Александрыі** занята ангельцамі дзеля рэпрэсіі за неспаўненьне Эгіптам ангельскага ультыматуму. 6 браняносцаў, 10 крэйсэраў і шмат падводных чаек прыбылі ў эгіпэцкія воды. Адданы загад яшчэ двум браняносцам, аднаму крэйсэру і двум мінаносцам выехаць у Александрыю. Эгіпэцкі кароль даручыў старшыні сэнату Жывар-Пашы стварэньне ўраду.

У **Парыжы** аднавіліся француска-нямецкія гандлёвыя перагаворы.

«Роста» паведамляе з **Масквы**, што 25-XI апублікована нота ангельскага ўраду. Адказ ураду С. С. Р. Р. меў быць высланы 26 лістапада.

Венская прэса паведамляе, што ў **Чэхаславакіі** ўлады трапілі на сьлед вялікага камуністычнага згавору проці чэхаславацкае дзяржавы і яе ваенных установаў. Пакуль што, арыштована 27 чалавек. Пры вобыску было знойдзена шмат компромітацыйных матар'ялаў, паміж іншым, прыказы аб узрыве казармаў. Сьледства ўстанавіла, што кіравалі згаворам з **Вены**. Чэхаславакія зьвярнулася да **Аўстрыі** з просьбаю памагчы ў сьледстве.

**АНАТОЛЬ ФРАНС.** *)

# Чорны хлеб.

У гэты час Мікалай Нэрлі быў банкірам у горадзе Флёрэнцыі. Калі званы званілі на раньнюю імшу, ён сядзеў ужо пры пісьменным стале, а калі званы званілі на вячэрнюю малітву, яшчэ пісаў цыфры ў сваёй запісной кніжачцы.

Ен пазычаў грошы каралю і папе. Калі не пазычаў іх чорту, дык толькі дзеля таго, што баяўся ашукацца, маючы зносіны з тым, каго называюць Злым і хто ўмее ашукваць.

Мікалай Нэрлі быў адважны і хітры. Ен меў вялізнае багацьце і пакрыўдзіў шмат людзей. Дзеля гэтага меў пашану ўва Флёрэнцыі. Жыў ён у палацы, куды сьвет Божы слаба пранікаў праз вузкія вокны; гэта было надта разумна з боку Мікалая Нэрлі, дзеля таго, што памешканьне багатыра павінна быць моў вастрог, а той, хто мае вялізную маемасьць, добра робіць, бароначы тое, што хітрасьцю здабыў сабе.

Палац Мікалая Нэрлі быў абясьпечаны рашоткай і ланцугамі. Унутраныя сьцены былі размалёваны лоўкімі рамесьнікамі, якія намалявалі на іх розныя дабрадзейнасьці ў постаці прыгожых жанчынаў ды патрыярхаў, прарокаў і цароў Ізраіля. Гобэлены, разьвешаныя ў пакоях, цешылі вока гісторыямі аб Аляксандры і Трыстане, вытканымі так, як іх апісваюць у раманах.

Мікалай Нэрлі быў вядомы ў горадзе сваімі набожнымі ахвярамі. За сьценамі гораду пабудаваў бальніцу, якой рэзьбяны і маляваны фрыз прадстаўляў самыя шляхотныя ўчынкі фундатара. За грошы, якія ахвяраваў на будоўлю касьцёла Santa Maria Novella, яго патрэт вісеў у presbiterium. На гэтым патрэце ён кленчыў са зложанымі далонямі каля ног Сьвятое Дзевы. Можна было яго пазнаць па намітцы з чырвонага валакна, па футраной сьвітцы і па жоўтым напухлым твары ды па маленечкіх хітранькіх вачох. З другога боку Маці Божай кленчыла ў пакорнай постаці яго жонка, Мона Вісмантава, з сумным чэсным тварам.

Мікалай Нэрлі быў адным з важнейшых грамадзян Рэспублікі. А дзеля таго, што ніколі не спраціўляўся законам і не клапаціўся аб бедных, ані аб тых, каго магутныя людзі караюць і ссылаюць, нішто не зьмяншала пашаны, якую ён здабыў сабе ў вачох сяброў рады сваею вялікаю маемасьцю.

Адзін раз у зімовы вечар Мікалай Нэрлі варочаўся ў свой палац пазьней, як заўсёды. На парозе абкружыў яго натаўп паўголых жабракоў, якія ў роспачы працягвалі рукі.

Ен адагнаў іх жорсткімі словамі. Але голад зрабіў гэтых бедакоў дзікімі і адважнымі, як ваўкі. Абкружылі яго цесным колам і жаласьлівым хрыплівым голасам пачалі дамагацца хлеба. Ужо ён зьбіраўся сагнуцца, каб падняць з зямлі каменьні і кінуць іх жабраком, калі раптам пабачыў аднаго са сваіх слугаў, які нёс на галаве кошык з чорным хлебам, прызначаным дзеля фурманоў, парабкоў і гароднікаў.

Ен загадаў яму падыйсьці бліжэй і, засунуўшы абедзьве рукі ў кошык, пачаў кідаць хлеб бедаком. Пасьля вярнуўся дамоў, лёг і заснуў. У сьне схапіў яго паляруш і ён раптам памёр. Яму здавалася, што пераварочваецца на ўласным ложку, калі раптам у цемры пабачыў Сьвятога Міхала, сьвяціўшагася бліскам, які выходзіў з ягонага цела.

*) Найбольшы пісьменьнік і поэт цяперашняе Францыі Анатоль Франс (праўдзівае імя Анатоль Тібо (Thibaut), сын парыскага кнігара, радзіўся 16 красавіка 1844 г., памёр 13 мінулага кастрычніка. Шмат гадоў А. Франс быў бібліятэкарам Францускага Сэнату, з 1896 г. сябром Францускае Акадэміі. Вялізарную літаратурную папулярнасьць далі Франсу, галоўным чынам яго повесьці. А. Франс быў заўсёды чалавекам, як кажуць, перадавым; закладчык „Лігі Абароны Правоў Чалавека і Грамадзяніна" і соцыялісты, які пасьля вайны схіляўся ў бок камунізму, А. Франс аднак-жа нязгодны быў з рэвалюцыйным тэрорам, што можна бачыць з аднае з яго повесьцяў „Багі хочуць крыві", ў якой апісаны момэнты Францускае Рэвалюцыі.

У **Нямеччыне** апублікована 19 розных выбарчых сьпiскаў у рэйхстаг і ў прускі ляндтаг.

25 лістапада ў **Лёндане** пачаліся англа-нямецкія гандлёвыя перагаворы.

З **Нью-Іорку** тэлеграфуюць, што падпіска на францускую пазыку ў разьмеры 100 мільёнаў даляраў была пакрыта ў 45 мінют. Лік заяваў значна перавысіў падпісную суму.

У **Кітайшчыне** створаны новы ўрад. Туан-Чы-Ю назначаны прэм'ерам і часовым начальнікам дзяржавы.

**Румынскія** ўлады выкрылі плян замаху на быўшага караля **Грэцыі**, які знаходзіцца на паляваньні ў **Бэсарабіі**. Некалькі падазронных грэкаў арыштована.

**Ангельскі** кароль назначыў Нэвіля Гэндэрсона паслом у Эгіпэт.

У **Японію** прыехаў з Шанхаю прэзыдэнт паўднёвае Кітайшчыны Сун-Ят-Сэн. Японская прэса прыдае гэтаму візыту вялікую вагу, зазначаючы, што Сун-Ят-Сэн некалькі разоў выказваўся за цеснае супрацоўніцтва з Японіяй.

Бюро Вольфа паведамляе з Бэрліну, што **Троцкі** звольнены з пасады ваеннага камісара і з іншых пасадаў.

# Пры разьбітым карыце.

Склiканы ў 1919 годзе ў Вільні сход беларусаў выдзяліў з сябе Віленскі Беларускі Нацыянальны Камітэт, які выставіў сваей мэтай аб'яднаньне ўсіх жыхароў-беларусоў на нацыянальнай пляцформе. Камітэт у самы кароткі час сгрупіраваў каля сябе ўсе культурныя інтэлігэнтныя сілы і распачаў на шырокую скалю культурна-прасьветную нацыянальную работу.

У той самы час астаўшыйся у Вільні аддзел Менскага Саюзу Коопэратываў, адарваны ад свайго цэнтру, пераживаў крытычны эканамічны момэнт і паўстаць сам праз сябе ня мог, бо ўрад гэтага аддзелу складаўся з прышлага элемэнту, незнаёмага з мясцовымі варункамі жыцьця.

Нацыянальны Камітэт пастанавіў з гэтага скарыстацца, ўвёў туды сваіх людзей, адданых ідэі коопэрацыі і ў самым кароткім часе аддзел Менскага Саюзу коопэратываў становіцца „Цэнтральным Саюзам Беларускіх Коопэратываў", аб'яднаўшым каля сябе больш як 300 беларускіх коопэратываў.

Беларускі Саюз Коопэратываў становіцца моцнай эканамічнай беларускай пляцоўкай і, апрача сваей эканамічнай дзеяльнасьці, вядзе культурную працу, распаўсюджвае ідэю коопэрацыі сярод беларускай вёскі.

1919 і 1920 г. г. трэба лічыць гадамі расьцьвету беларускай коопэрацыі ў Віленшчыне.

У 1920 годзе Віленскі Беларускі Нацыянальны Камітэт, пад уплывам экс-прэм'ера п. А. Луцкевіча і яго „присныхъ" пакрысе пачынае праводзіць антыпольскую палітыку, орыентуючыся на Літву.

Мы добра ведаем, што інтрыганства і бяз'ідэйнае палітыканства — гэта галоўныя матывы палітычнай дзеяльнасьці п. А. Луцкевіча. Пры такіх мэтодах палітычнай працы заўсёды трэба апэрыраваць „сваімі" людзьмі, ўсіх іншых, можа здольных і культурных, трэба тым ці іншым спосабам пры гэтым усунуць, ня лічачыся з тым, што нацыянальны рух на кучцы палітыканаў трымацца ня можа, што ўмацніць гэты рух можа толькі аб'яднаньне ўсіх культурных нацыянальных сіл.

Адным з галоўных прынцыпаў такой палітыкі быў захват у свае рукі культурных і эканамічных пляцовак і ясна, што абайсьці і не папробаваць свайго шчасьця у Саюзе Коопэратываў кампанія п. Луцкевіча не магла.

На зьезьдзе Саюзу Коопэратываў у 1921 годзе, Віленскаму Нацыянальнаму Камітэту ўдаецца правясьці у Урад Саюзу сваіх людзей...

Тады былі выбраны п. п. Краскоўскі, Ярэміч, Трэпка і інш.

З гэтага момэнту паміж Віленскім нацыянальным Камітэтам і Саюзам Коопэратываў наступае поўны альянс. Але антыдзяржаўная палітыка Віленскага Нацыянальнага Камітэту не магла не адазвацца на дабрабыце Саюзу. Польскі Урад і польскае грамадзянства не магло ісьці на спатканьне, бо на Саюз перасталі глядзець, як на эканамічную інстытуцыю, а бачылі ў ім толькі палітычную пляцоўку Віленскага Нацыянальнага Камітэту. — Апрача таго, людзі якіх тады Віленскі Нацыянальны Камітэт правёў у Урад Саюзу, ня маючы нічога супольнага з коопэрацыяй і будучы няздольнымі ўтрымаць на патрэбнай вышыні эканамічны дабрабыт Саюзу, але за тое „фаховыя" палітыкі Луцкевічаўскага толку, давялі Саюз да ручкі. Панаваньне ў Урадзе Саюзу гэтых паноў — гэта эра эканамічнага ўпадку Саюзу.

Упадак цэнтру ня мог не адазвацца на разьвіцьці провінцыяльных коопэратываў і некаторыя з іх зьліквідаваліся, а другія выйшлі з Саюзу. І вось, моцная эканамічная пляцоўка беларускага народу ў Заходняй Беларусі амаль што не перастае існаваць.

Антыдзяржаўная палітыка Віленскага Нацыянальнага Камітэту змусіла пад канец Польскі Урад прыняць энэргічныя меры барацьбы, што і выявілася у арышце найбольш актыўных палітыкаў з высылкай іх у Літву.

Гэты крок Польскага Ураду ўнёс дэзарганізацыю ў Нацыянальны Камітэт, вырваўшы з лагеру Луцкевіча шмат *сваіх* „верных" людзей, чым скарысталася група ідэйных коопэратараў, каб вызваліць Саюз з-пад апекі камітэту. Але гаспадараваньне п. п. Ярэмічаў, Краскоўскіх, Трэпкаў так аслабіла Саюз, што сам паўстаць ён ужо ня мог і змушаны быў, каб захаваць самую ідэю коопэрацыі, злучыцца з польскімі коопэратывамі ды адкінуць свой назоў „Беларускі" а стаць толькі „Саюзам коопэратываў Віленшчыны". Як і раней мы ад'значылі, што эканамічная разруха адазвалася і па провінцыяльных коопэратывах, якія часткаю зьліквідаваліся, часткаю зусім аслабелі эканамічна.

Ясна, што, пры злучэньні, польскія коопэратывы, як больш моцныя, якія палітыканствам не займаліся, а ставілі аднэй сваей мэтай чыстую ідэю коопэрацыі і свой эканамічны дабрабыт, узялі ў свае рукі кіраўніцтва коопэрацыяй у Саюзе і мы, беларусы, дзякуючы шкоднай палітыцы п. Луцкевіча і яго кампаніі, страцілі найважнейшую эканамічную пляцоўку. *В.*

# Агляд прэсы.

У сувязі з назначэньнем новага міністра ўнутраных справаў „Kurjer Polski" піша, што тое, што зроблена новым урадам пад сьцягам новай нацыянальнай палітыкі з практычнага погляду пастолькі мае вартасьць, паскольки будзе наказам для выканаўчай улады ўсялякай рангі і ўсіх галінаў адміністрацыі, ў руках якой ляжыць лёс *крэсовага* насяленьня. Далей „К. Р." ад'значае, што памятныя пастановы польскіх законадаўчых установаў дагэтуль не зрабіліся наказам для дзяржаўнага выкананьня на *крэсах:*

... Можна было, напр., спадзявацца, што зараз, адтрымаўшы гэтак важны палітычны сыгнал, будзе ўпарадкавана пякучая і гэтак дакучлівая для насяленьня справа дзяржаўнай прыналежнасьці на ўсходніх землях (obywatelstwa). Палажэньне, якое вывarылася ў гэтым напрамку, проста страшэннае.

А „Kurjer Poranny" жаліцца, што ў польскіх палітычных сфэрах дагэтуль яшчэ няма паразуменьня датычна таго, як увясьці лад і спакой на *крэсах:*

... Сварка, якая ад пачатку істнаваньня польскай дзяржавы пачалася між фэдэралістымі ды нацыяналістымі трывае шмат доўга. Ад самага пачатку наша ўсходняя палітыка, гэтак нязгодная і заблутаная адносна да сваіх мэтаў і спосабаў, зрабілася полем партыйнага змаганьня і ня мела мацнейшай апоры ані ў грамадзянстве, ані ў Сойме, ані ў грамадзкай думцы, ані ў публіцыстыцы, ані ў палітычнай літэратуры. Адзін кабінэт браў гэту цяжкую спадчыну па папярэднім, прабаваў паправіць дзела паўспосабамі, думаючы, што пасварыўшыяся дайдуць у канцы канцоў да раўнавагі, што з агульнага хаосу выявяцца ўрэшце адналітыя і ясныя проекты і праграмы. Гэтак ішоў час, плылі гады, а бясьпечнасьць і дзяржаўны інтэрас заўсёды былі пад пагрозай...

Ня толькі Польшча мела і мае свае „крэсы". Францыя мела Брэтань, Нормандыю і Сабаўдыю, Англія ня толькі Ірляндыю, але й Шкоцыю, Аўстра-Вэнгрыя Босьнію і Гэрцэгавіну. Аднак тыя дзяржавы, якія мелі сталую і сільную палітычную праграму, патрапілі даваць сабе раду з крэсовымі пытаньнямі; а тыя, якія вялі палітыку залежную ад часовых акалічнасьцяў і паддаваліся партыйным нашэптаваньням, зрабіліся іх ахвярай.

Гэткае палажэньне, гэткае настраеньне, праўда, крыху зьмяніўшаеся ў працягу апошніх тыдняў, знайдзе ў Варшаве новы міністар унутраных справаў.

Далей газэта зьвяртае ўвагу на тое, што новыя проекты самаупраўленьня, калі знойдуцца на варстаце соймавай працы і хутка маюць стацца законамі, прытарнованыя да крэсовага жыцьця, вымагаюць зьменаў і палепшаньняў:

... Нельга адналітай схэмы самаўпраўленьня расьцягваць на ўсю дзяржаву, дзеля таго, што крэсы маюць іншы склад насяленьня, іншую культуру і абычаі, іншыя мелі законы, чымся Конгрэсовае Каралеўства, іншыя пануюць там традыцыі, паняцьці і патрэбы.

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

*Той, хто умее чытаць, ніколі не палянуйся прачытаць няпісьменнаму!*

Архангел трымаў у руцэ вагу і напаўняў яе талерачкі. Мікалай Нэрлі адразу ўцяміў, што Сьвяты Міхал важыць цяпер яго жыцьцё, бо на цяжэйшай талерачцы пазнаў клейнаты ўдавы, якія былі ў яго заложаны, шмат бяспраўна затрыманых абрэзкаў ад дукатаў і колькі нязвычайна харошых монэт, якія былі толькі ў яго аднаго, здабытыя ліхвой або ашуканствам.

Мікалай Нэрлі пачаў пільна сачыць.

— Пане, Сьвяты Міхале, — сказаў, — калі на адну талерачку кладзіцё заработкі майго жыцьця, дык на другую палажэце, калі ласка, ўсе мае дабрадзейнасьці, якімі я гэтак хораша праявіў сваю набожнасьць. Не запомніце аб касьцёле Santa Maria Novella, да будаваньня яго я прычыніўся прынамсі ў трэцяй часьці, ды аб бальніцы за сьценамі гораду, якую я цалком пабудаваў за ўласныя дэнары.

— Ня бойся, Мікалай Нэрлі, — адказаў Архангел, — ні аб чым не запомню.

І прамянеўшымі рукамі палажыў па лягчэйшай талерачцы касьцёл Santa Maria Novella і бальніцу з разьбяным і маляваным фрызам. Але талерачка не апускалася ані крышку.

Банкір надта спалохаўся.

— Пане, Сьвяты Міхале! — сказаў, — пашукайце яшчэ. Вы яшчэ не палажылі на гэтай талерачцы ані мае прыгожае крапільніцы ад Сьвятога Яна, ані амбоны ад Сьвятога Андрэя, на якой у натуральным разьмеры прадстаўлены хрэсьбіны нашага Пана Ісуса Хрыста. Гэты твор каштаваў мне вельмі дорага.

Архангел палажыў амбону і крапільніцу побач з бальніцай. Але талерачка не апускалася ані крыху.

Мікалай Нэрлі пачуў, што сьцюдзёны пот выступіў у яго на чале.

— Пане, Сьвяты Міхале, — сказаў, — ці вы напэўна ведаеце, што вашы вагі акуратныя?

Сьвяты Міхал усьмяхаючыся адказаў, што яго вага акуратная, хаця зроблена не паводле вагаў парыскіх лёмбардаў і вэнэцкіх банкіраў.

— Як-жа ж гэта так? — уздыхнуў Мікалай Нэрлі, зьбялеўшы і перапалоханы, — дык значыцца гэты касьцёл, крапільніца, бальніца з усімі ложкамі ня важаць болей за саломінку, за птушыную пярынку?

— Сам гэта бачыш, Мікалай! — адказаў Архангел, — дагэтуль ліхадзействы твае шмат цяжэйшыя за добрыя справы.

— Значыцца, пайду ў пекла, — сказаў флёрэнтыец.

І пачаў зьвінець зубамі з перапуду.

— Пачакай цярпліва, Мікалай Нэрлі — адказаў нябесны судзьдзя. — Мы яшчэ ня скончылі. Вось што яшчэ застаецца.

І Сьвяты Міхал узяў боханы чорнага хлеба, якія багатыр учора кінуў бедаком. А калі палажылі іх на талерачцы добрых дзеяньняў, дык тая адразу апусьцілася, а другая паднялася і абедзьве затрымаліся ў раўнавазе, не перахіляючыся ані ўправа, ані ўлева і стрэлачка паказвала аднолькавую важкасьць абедзьвюх талерачак.

Банкір ня верыў уласным вачом.

Праменны Архангел сказаў яму:

— Бачыш, Міколай Нэрлі, ты не гадзішся ані да неба, ані да пекла. Ідзі! Варочайся ў Флёрэнцыю! Размнож у тваім горадзе хлеб, які ты ўласнай рукой раздаў сярод ночы, калі цябе ніхто ня бачыў, і будзеш збаўлены. Бо мала таго, калі неба адчыняецца для ліхадзея, які скараецца і для распусьніцы, якая плача. Зьлітаваньне Божае ня мае межаў і можа збавіць навет багатыра. Будзь збаўлены. Размнож гэты чорны хлеб — бачыш, якая ягоная важкасьць? Ідзі!

Мікалай Нэрлі збудзіўся на сваім ложку. Пастанавіў паслухацца рады Архангела і размножыць хлеб бедакоў, каб увайсьці ў Царства Нябеснае.

Праз тры гады, якія пасьля свае першае сьмерці правёў на зямлі, быў літасьцівы для бедакоў і шчыра ім памагаў.

*Пераклажыў* **Ю. М.**

# ПА СЬВЕЦЕ.

### Сколькі вырабляецца цукру?

Ангельская часопісь „Statist" аблічае агульны сусьветны вытвар цукру ў бягучай кампаніі 1924 — 1925 г. ў 21.550,000 тонаў у параўнаньні з 19.650,000 тонаў у мінулай кампаніі 1923 — 1924 г. А дзеля гэтага думаюць, што павялічэньне сусьветнага вытвару цукру зробіць бязумоўны ўплыў на паніжэньне цаны цукру на сусьветным рынку.

Але ці патаньнее ад гэтага цукер у нас?

### Даваенныя даўгі Нямеччыны.

Камісія адшкадаваньняў зрабіла падзел нямецкіх даваенных публічных даўгоў, якія належаць паасобным дзяржавам. Поводлуг гэтага падзелу, належыць: Бэльгіі — 640.800 залатых марак, Гданску — 4.763,729 мар., Чэхаславакіі — 242,879 мар., Польшчы за Верхнюю Сілезію — 1.750,361 мар. і за іншыя тэрыторыі — 17.121,438 мар.

# У С.С.Р.Р.

### Барацьба з самагонам.

ПАТ перадае вестку з Масквы, што барацьба бальшавіцкае ўлады з таемным вырабам гарэлкі спатыкае моцнае спраціўленьне з боку сялянства. Гэтак, у спатычцы з самагоньнікамі ў Іванава-Вазьнясенскай губэрні быў забіты міліцыянэр, якому нанясьлі 30 ранаў. У Арлоўскай губ. забіты адзін камуністы, старшыня камітэту ўзаемнае падмогі, які кіраваў барацьбою з самагонам.

### Арышты ў Петраградзе.

17 лістапада ў Петраградзе ГПУ зрабіла ў рабочых кварталах места вельмі шмат арыштаў і вобыскаў. Арышты зроблены нібыто ў сувязі з выкрытым згаворам проці радавае ўлады, але папраўдзе ГПУ выпаўняла загад петраградзкага губ. камітэту камуністычнае партыі ачысьціць места ад неспакойных элемэнтаў з ліку безработных, якія валтузяць масы.

### Голад у Марыупольскім раёне.

У Маскву прышло паведамленьне ўпаважненага ад камісіі Рыкава аб вельмі цяжкім палажэньні галодных у Марыупольскім павеце, аб разгроме сельскіх харчовых складаў і крамаў і аб забурэньнях сялянства, якое не адтрымлівае дакляраванае харчавое падмогі. Непарадкі выкліканыя безработнымі ў Марыупале 17-га лістапада былі ўсьміраны ваеннаю сілаю.

### Непарадкі сярод рабочых.

У Купянскім раёне харкаўскае губэрні пачаліся непарадкі сярод рабочых мэталюргічных заводаў. Непарадкі паўсталі на грунце затрыманьня заработнае платы па старым задаўжаньні і з прычыны зьменшаньня вытвару, пры якім адміністрацыя супольна з камуністычнымі **ячэйкамі** звальняе рабочых не ў залежнасьці ад іхняга даўнейшага сроку службы на заводах і неабходнасьці для справы рабочых данага цэху, а выключна паводлуг меркаваньняў палітычнага характару і актыўнасьці рабочых у ранейшых конфліктах з адміністрацыяй.

### Бяспрытульныя дзеці.

Украінская цэнтральная камісія па барацьбе з бяспрытульнасьцю малалетніх паведаміла украінскую раду народных камісараў і Маскву, што ў галодных раёнах Украіны на 10 лістапада зарэестравана 486 тысяч дзяцей, якія ня маюць дагляду. З іх дастаюць грамадзкае кармленьне толькі 198.000 дзяцей. Разьмешчана па прытулках 72 000 дзяцей.

### Камінтэрн загадвае.

На паседжаньні заходня-эўропэйскае сэкцыі камінтэрму пад прэзэсурай Зіноўева пастаноўлена, каб камуністычныя партыі ў кожнай дзяржаве выдзялілі са свайго складу асобныя арганізацыі дзеля вядзеньня барацьбы з „соцыяль-згодніцкімі" групіроўкамі ў профэсіянальных саюзах паводлуг інструкцыяў выканаўчага камітэту камінтэрну.

# Навіны ў тры радкі.

— З Лёндану паведамляюць аб кражы транспорту золата на 10 міл фунт., высланага з Афрыкі ў Англію.

— Каля Коўна зруйнованы ўзрывам склады баявых снарадаў. Загінула 7 чалавек.

— Нарвэжац Фрытьоф Нансэн рыхтуе на вясну 1927 г. экспэдыцыю на паўночны полюс, дзеля якое будзе збудованы аэростат тыпу Цэпэліна.

— 27-XI ў Лоцзі пачалася забастоўка рабочых валакнянае прамысловасьці.

— Маскоўскія газэты пішуць, што 19-XI стаў лёд на рэках Волзе, Каме, Вятцы і інш.

— „Руль" піша, што ў бягучым школьным годзе ў Харкаўскай губэрні 140.000 дзяцей пролетарскага паходжаньня не пападуць у школу.

— У Бабруйскім вокрузе прэзс іспалкому двойчы арыштаваў селькора Лапіцкага.

— У Віньніцы (Украіна) расстрэлены б. афіцэр Лявіцкі, абвінавачаны ў шпіёнстве для Румыніі.

— У Закаўказьі зроблена чыстка безработных. У Баку выключана 50%, у Тыфлісе 70% і ў Эрывані 82%.

— З прычыны вострага кватэрнага крызысу ў Харкаве, назначана асобная камісія для разгрузкі места.

— Амэрыканская рабочая фэдэрацыя выказалася проці аднаўленьня гандлёвых зносін з С. С. Р. Р.

— Уночы з 26 на 27-XI з прычыны сільнае буры ў канале Ля-Манш перарвалася камунікацыя паміж Англіяй і Францыяй.

— У Баўгарыі аддана пад дзяржаўны суд каля 30 х камуністых.

# Жыцьцё провінцыі.

**Вёска Саволеўка**, *Горадз. пав., Жыдамлянскай валасьці.*

Перад вайной у нашай вёсцы была пачатковая, так званая „царкоўна-прыходзкая", школа; праўда, ўласнага будынку школа ня мела, а мясьцілася ў нанятым у гаспадара будынку, за які плаціла казна. Цяпер ужо шмат часу прайшло як вайна скончылася, людзі, якія былі выгналы ў Расею,—вярнуліся; дзетак шмат у вёсцы, але школы няма як няма і дзеці растуць без навукі.

Улетку, дык хаця жывёлу пасуць, а як прыдзе зіма, „дык проста сабак ганяюць па вёсцы. Ці ня можна было-б паклапаціцца, каб у нас хаця якую-колечы школу адчынілі, абы толькі дзеці маглі вучыцца і ў будучыне не клялі бацькоў, што іх цёмнымі узгадавалі. Вёска ў нас вялікая і дзяцей ня менш як паўсотні назьбіралася-б. *Вясковы.*

### Работніцкі рух у Горадне.

16 лістапада а гадз. 1 удзень у салі на Падольнай вул. адбыўся агульны сход усіх рабочых хрысьціян Урадовай табачнай фабрыкі (быўш. фабрыка І. Л. Шэрэшэўскага). З прамовай ад рабочых хрысьціян выступаў п. Мазуркевіч, які абрысоўваючы заданьне работніцкіх прафэсіянальных саюзаў, вельмі нападаў на саюз хрысьціянскіх рабочых утвораны ксяндзом Саванеўскім і заклікаў, каб усе рабочыя, якія запісаліся ў гэты саюз „вылязьлі" з яго і далучыліся да існуючага жыдоўскага саюзу. Ад імя жыдоўскага саюзу з прамовай выступаў п. Гонікман, які заклікаў хрысьціянскіх рабочых да аб'яднаньня з жыдоўскім прафэсіянальным саюзам.

Агульны сход пастанавіў: усім рабочым аб'яднацца з жыдоўскім саюзам, такім чынам, творачы адзіны саюз рабочых урадовай табачнай фабрыкі ў Горадне. *Гарадзкі.*

**М-ка Крынкі**, *Горадзенскага пав.*

Забастоўка працаўнікоў у гарбарнях зьліквідована кампрамісам рабочых. Яны жадалі падвышкі платы 50%, але згадзіліся адтрымаць 30% і прыступілі да працы.

### Места Саколка.

Тут мелася пачацца забастоўка працаўнікоў-гарбароў; яны жадалі падвышкі платы на 50%, але згадзіліся на 25% і заключылі ўмову. Цяпер дзенная плата выносіць: 6,06 зл.— І катэгорыя, 5,83—ІІ кат., 5,05—ІІІ кат., невыкваліфікованыя працаўнікі — 2—3,50 і малалетнія ад 1,50 да 2 злотых у дзень.

Такім чынам, забастоўка не адбылася. *Працаўнік.*

# Тутэйшая хроніка.

**= Паведамленьне Часовае Беларускае Рады па школьнай справе**, 28-га лістапада бягучага году прадстаўнікі Часовай Беларускай Рады п. п. Вільдзюкевіч і Шышкоў адбылі конфэрэнцыю з п. Куратарам Віленскага Школьнага Вокругу, на якой аканчальна абгаварылі справу адкрыцьця беларускіх школаў. На падставе копіяў пратаколаў, прысланых з Віленшчыны ў Часовую беларускую Раду п. Куратар выдаў павятовым школьным уладам загад:

1) Выдаць Т-ву „Прасьвета" концэсію на адкрыцьце ў вёсках: Каўшэвічы і Капусьціна, Ільскай воласьці, Вялейскага павету прыватнай Беларускай пачатковай школы.

2) Ў польскіх пачатковых школах ў вёсках: Іжа, Іжанскай воласьці, Вялейскага павету, Бадзені, Мядзёльскай воласьці, Дунілавіцкага павету, Мойсічы, Маладзечанскай воласьці, Вялейскага пав. на жаданьне сялян пачынаючы ад 1 студня 1925 году ўвясьці, пакуль што, як прадмет, беларускую мову.

На будучыну даводзіцца да ведама жыхароў, жадаючых адчыніць беларускую школу ці перарабіць польскую на двумоўную або беларускую, што:

1) Каб адчыніць новую беларускую пачатковую школу трэба, каб прыгавар быў адасланы да войта воласьці на сьцьвярджэньне подпісаў **з далучэньнем просьбы**, каб войт склікаў Валасную Раду і зрабіў прапазыцыю Радзе аб тым, каб яна прыняла на свой кошт аплату будынку, сьвятла, дроў, стоража і інвэнтара.

Копіі ўсіх прадстаўленых дакумэнтаў трэба, **не чакаючы**, адасланц поштаю па адрэсе: Wilno, ul. Niemiecka Hotel „Palace", Часовая Беларуская Рада.

2) Перарабіць польскую школу на беларускую можна толькі з пачаткам школьнага году, тымчасам можна будзе толькі ўводзіць беларускую мову, як прадмет. Дзеля гэтага трэба прысланц ў Час. Бел. Раду арыгінал прыгавару, сьцверджаны валасным войтам.

Часовая Бел. Рада зьвяртаецца да настаўнікаў і бацькоў, жадаючых адкрыцьця роднае школы, якнайхутчэй прысланц прыгавары. Бо толькі, дзякуючы таму, што да гэтага часу прыслана мала прыгавараў, зацягваецца справа адкрыцьця школаў.

**= Коопэратарскі Зьезд.** Учора 29.XI пачаўся ў Вільні над'звычайны зьезд Саюзу Коопэратываў Віленшчыны.

# Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Пане Рэдактар!*

Не адмоўце зьмясьціць, у інтарэсах праўды, ніжэйпададанае:

У адказ на адкрытае пісьмо п. Т. Куніцкага, надрукованае ў „Сялянскай Праўдзе" № 26, лічу патрэбным апублікаваць, што п. Куніцкі ніколі някабыў якім-нібудзь грамадзкім працаўніком Грамадзянскага Сабраньня і што калі і паяўляўся ў Сабраньне, то з мэтай шпіёнажу, і на п. Куніцкага і глядзелі ўсе, як на луцкевічаўскага шпіёна. Дзеля гэтага дарэмна п. Куніцкі сабе прысвоіў супрацоўніцтва ў Гр. Сабраньні і такія пісьмы пісаць— гэта правакацыя.

Т. Куніцкі быў у ліку тэхнічнага пэрсоналу, але за неакуратнасьць, аб якой брыдка й гаварыць — выкінуты.

*Валэйша*

Прэзэс Белар. Грам. Сабр.

# УСЯЧЫНА.

### Памятнік сабацы.

„Kurjer Porannу" піша, што адзін з гадавальнікаў сабак заграніцаю на памятніку, які ён паставіў сабацы, зьмясьціў табліцу з гэткім надпісам: „Тут ляжыць Добэрман, лёрд фон-Гадэрсбэргэн, нарадзіўся 26/V 1915 г., памёр 7/IX 1924 г., быў ліхімі людзьмі бяз ніякае прычыны атручаны. Пераджыў сусьветную вайну, быў таварышом свайго пана на ўсіх палёх бою, быў ад'значаны першымі нагрaдамі на 4-х выстаўках сабак. Быў верным слугою свайго пана, які з удзячнасьці яму гэты памятнік пасьвячае".

Якіх толькі дзівачных людзей няма на белым сьвеце!

## Паштовая скрынка.

**Васіль Вырзьнік** і **А. Дулінец.** Пісьмы адтрымалі, газэту высылаем.

**Сымон Будавей** — грошы адтрымалі, газэту высылаем. Зьезд вучыцялёў, які адбудзецца ў самым хуткім часе, вырашыць варункі прыёму на курсы, аб чым у свой час будзе абвешчана ў нашай газэце.



Рэдактар-Выдавец **Язэп Салавей.** Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.